# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№2 (213)
люты 2020

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”


## У НУМАРЫ:

### Прах Змітрака Бядулі вярнуўся на радзіму

Пытаннем перапахавання Бядулі займаецца Фонд Марыі Магдалены Радзівіл, які ўзначальвае Аляксандр Сапега. Спадар Сапега асабіста адправіўся ва Уральск, горад, дзе быў пахаваны Бядуля.

Старонка 3

### Прэзідэнт Беларускага аб’яднання ў Швейцарыі атрымаў медаль ад МЗС

Узнагароджанне адбывалася падчас урачыстага адкрыцця Консульства Рэспублікі Беларусь у Ліхтэнштэйне, куды Аляксандр Сапега быў запрошаны як ганаровы госць.

Старонка 3

### “Беларускія мастакі ў Латвіі. 1920–1990”

29 лютага ў Рызе на Міжнароднай выставе кніг адбылася прэзентацыя доўгачаканай манаграфіі вядомага мастака, кавалера Ордэна Трох Зорак, сябра Рады ЗБС “Бацькаўшчына” Вячкі Целеша.

Старонка 5

### Беларуская гімназія ў Вільні

Можна прыходзіць на заняткі ў піжамах. Гімн гімназістаў – “Гуляць дык гуляць!” Праўда, усё гэта толькі адзін дзень у год – на “стадзёнку”. А з сур’ёзных “плюшак” – у апошніх класах можна не вучыць фізіку і хімію з біялогіяй. І гэта чыстая праўда.

Старонка 6



Беларусы Канады.

## Сяргей Пульша: У НАС ДАГЭТУЛЬ УСПРЫМАЮЦЬ ІМІГРАНТАЎ ЯК “ЗДРАДНІКАЎ”

Ні для каго не сакрэт, што беларусы масава з’язджаюць з “краіны для жыцця” і “сацыяльна арыентаванай дзяржавы”. Тут не трэба быць сацыёлагам альбо шукаць нейкую статыстыку, трэба толькі азірнуцца навокал. Прынамсі, у мяне сяброў і знаёмых, якія цяпер стала жывуць у замежжы, больш, чым у Беларусі.

Прычынаў для ад’езду багата. Гэта і стагнацыя эканомікі, і немагчымасць рэалізаваць свае праекты. А тое і ўвогуле “нязгода з дзеючым кіраўнікам дзяржавы”. У нейкай ступені паўплывала і “праграма Каліноўскага”, і выгнаны ў Вільню Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт. Пачыналася ўсё як “кузня адукаваных і дасведчаных кадраў для дэмакратычнай Беларусі”.

Працяг на старонцы 2.

навіны ЗБС “Бацькаўшчына”

# Сяргей Пульша: У нас дагэтуль успрымаюць імігрантаў як “здраднікаў”

Працяг са старонкі 1.




У Саўт-Рыверы, што з'яўляецца адным з цэнтраў беларускай эміграцыі ў ЗША, ушанавалі памяці паўстанцаў Слуцкага збройнага чыну 1920 года. 8 снежня 2019 года.

Але дэмакратыя ў Беларусі так і не настала (можа і “дзякуючы” адтоку актыўных і крэатыўных маладзёнаў у гэтыя праграмы). А таму ў Беларусі гэтым “адукаваным і крэатыўным” няма дзе прымяніць свае веды і здольнасці.

У нармальнай краіне, канешне, дзяржава, “маці-радзіма”, была б зацікаўленая ў дасведчаных, маладых і поўных працоўнага энтузіязму кадрах. Але – не ў нас. У нас дагэтуль, па старой савецкай завядзёнцы, успрымаюць імігрантаў як “здраднікаў”. Увогуле, узнікае адчуванне, што дзяржава кажа: “З'ехалі – дый добра”.

У той жа час, нібыта, дзяржава і клапоціцца пра беларусаў замежжа. Фармальна, у нас існуюць, напрыклад, Кансультатыўны савет па справах беларусаў замежжа пры МЗС, падпраграма “Беларусы ў свеце”, якая з'яўляецца часткай праграмы “Культура Беларусі”, газета “Голас Радзімы”, і нават закон “Аб беларусах замежжа”. Але, па-першае, сам гэты закон быў прыняты шмат у чым дзякуючы таму ж Міжнароднаму грамадскаму аб'яднанню “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”, структуры, якая, падаецца, адзіная, што клапоціцца пра нашых суайчыннікаў за мяжой, а па-другое – ці дастаткова такіх фармальных захадаў у дачыненнях з нашай дыяспарай?

Мы нават дакладна не ведаем, колькі ў свеце беларусаў-замежнікаў! Паводле звестак Міністэрства замежных спраў, колькасць беларусаў у свеце – каля 2,5 мільёна чалавек, большасць якіх жыве ў суседніх і гістарычна звязаных з Беларуссю краінах – Расія, дзяржавы Балтыі, Украіна, Польшча, Казахстан, Узбекістан, Малдова. Паводле іншых дадзеных, у 73 краінах свету жыве 3,5 мільёна беларусаў. Куды з-пад “дзяржаўнага кантролю” выпаў цэлы мільён чалавек?

У наш час усе суседзі асэнсавалі патэнцыял сваіх суайчыннікаў за мяжой. Знаная “карта паляка”, Украіна ўвяла ў дзеянне “статус замежнага ўкраінца”, Расія ўвогуле абмяркоўвае праекты па раздачы сваіх пашпартоў ці не ўсім рускамоўным. А Беларусь?

Тое ж ЗБС “Бацькаўшчына” больш за дзесяцігоддзе лабіруе прыняцце “карты беларуса” альбо “пасведчанне беларуса замежжа”: хаця б для таго, каб нашы суайчыннікі маглі наведваць Радзіму без візаў. У мінулым годзе арганізацыя накіравала 13 старонак (!) прапаноў па зменах у беларускае заканадаўства, якія б спрасцілі жыццё беларусаў замежжа, прынамсі, на Радзіме. Але Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў Беларусі на гэтыя прапановы адказаў: неабходнае іх дадатковае вывучэнне. Гэтая неабходнасць звязаная (увага!) “з пазіцыяй Канстытуцыйнага суда Беларусі ў дачыненні да дзейнага ў Польшчы закона “Аб карце паляка”. Суд лічыць, што паданне льгот і прывілееў замежным грамадзянам – уладальнікам “карты паляка” супярэчыць палажэнням шэрагу міжнародных дагавораў і агульнапрызнаным прынцыпам міжнароднага права”.




У Ню-Ёрку беларусы Амерыкі пратэставалі супраць паглыбленай інтэграцыі Беларусі і Расіі. 9 снежня 2019 года.

Так і хочацца накіраваць гэты адказ у праграму “Дзе логіка?”, што ідзе па ТНТ. Можа, там патлумачаць, якое дачыненне “карта паляка” мае да магчымай “карты беларуса”? Калі “карта паляка” нечаму супярэчыць – гэта праблема палякаў. Пры чым тут пазіцыя Канстытуцыйнага суда па іншым – замежным! – дакуменце?

У час VII з'езду беларусаў свету ў 2017 годзе, выступаючы з яго трыбуны, кіраўнік МЗС Уладзімір Макей зазначыў, што дыяспара – гэта “мяккая, але магутная і велізарная сіла, здольная адстойваць інтарэсы народа Беларусі і мацаваць незалежнасць дзяржавы”. І гэта сапраўды так. Сённяшнія імігранты, можа быць, і не імкнуцца яднацца ў нейкія структуры, ствараць беларускія суполкі і арганізацыі ў краінах побыту. Выглядае, што яны – самі па сабе. Аднак, як толькі ўзнікла “паглыбленая інтэграцыя” і паўстала пагроза незалежнасці Беларусі, па ўсім свеце пракацілася хваля пікетаў і акцый у падтрымку суверэнітэту краіны.

А што робіць краіна для дыяспары? На тым жа з'ездзе беларусаў свету ўладам прапанавалі распрацаваць і прыняць Дзяржаўную стратэгію супрацоўніцтва з беларусамі замежжа на перыяд да 2025 года”. Канцэпцыя гэтай стратэгіі прадугледжвае падтрымку дыяспары, пашырэнне правоў і магчымасцяў “замежных беларусаў” на Радзіме і заахвочванне новых імігрантаў браць актыўны ўдзел у арганізаваных беларускіх суполках. Ну і, канешне, “больш актыўна выкарыстоўваць пасярэдніцкі патэнцыял дыяспары”.

Але, нягледзячы на тое, што прапановы былі выказаныя амаль тры гады таму, прыняцце такой стратэгіі, – не блізкі свет. Як паведаміла “Новаму Часу” кіраўніца МГА ЗБС “Бацькаўшчына” Алена Макоўская, цяпер распрацоўваецца новая дзяржаўная праграма, што будзе закранаць і пытанні дыяспары. Яна павінна пачаць дзейнічаць з 2021 года, і МЗС Беларусі ўжо заахвоціў зацікаўленыя арганізацыі падаваць свае прапановы па змесце гэтага дакумента. Зразумела, прадстаўнікі “Бацькаўшчыны” такія прапановы падалі. І яны ўтрымліваюць багата рэчаў з канцэпцыі стратэгіі супрацоўніцтва з беларусамі замежжа.

Па словах Алены Макоўскай, пакуль нават не вядома, будзе гэта асобная праграма, ці, як і раней, падпраграма ў раздзеле праграмы “Культура”. “Мы вельмі спадзяемся, што гэта будзе асобная праграма, бо падпраграма закранае толькі культурныя пытанні. Але вопыт іншых краінаў сведчыць, што супрацоўніцтва павінна быць шырэйшым, у шмат якіх кірунках – гэта і эканамічны, і інтэлектуальны, гэта пабудова даверу паміж дзяржавай і дыяспарай, розныя кірункі”, – кажа яна.

Паводле Алены Макоўскай, асобнай стратэгіі супрацоўніцтва з беларусамі замежжа чакаць пакуль не варта. Не варта чакаць і “карты беларуса”, што вельмі прыкра. Бо які давер можа быць у суайчынніка за мяжой да “маці-радзімы”, калі наведаць гэтую “маці” ён можа толькі па візе, альбо – на кароткі тэрмін, – скарыстаўшыся “бязвізам”? Атрымліваецца, што наш суайчыннік дэ-факта прыроўнены да простага замежніка.

Пакуль, на жаль, ёсць сталае ўражанне, што ўлада Сінявокай – зноў жа, у адрозненне ад суседзяў, – проста не хоча асэнсоўваць патэнцыял дыяспары. І наша “мяккая сіла” так і застаецца рэзервам на будучыню.

**Паводле Сяргея Пульшы, novychas.by**

навіны

# ПРАХ ЗМІТРАКА БЯДУЛІ ВЯРНУЎСЯ НА РАДЗІМУ

Праз 77 гадоў пасля смерці прах выбітнага беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі вярнулі ў Беларусь.

– У нас было шэсць спробаў раней, усе пачыналіся паспяхова, працягваліся з цяжкасцямі і заканчваліся нічым. Гэтым разам усё атрымалася, – кажа сын пісьменніка Яфім Плаўнік.

Пісьменнік памёр 3 лістапада 1943 года ў эвакуацыі ў Казахстане. Быў пахаваны на вялікіх могілках ля Уральска.

Пытаннем перапахавання Бядулі займаецца Фонд Марыі Магдалены Радзівіл, які ўзначальвае Аляксандр Сапега. Спадар Сапега асабіста адправіўся ва Уральск, горад, дзе быў пахаваны Бядуля.

– Могілкі, дзе быў пахаваны Бядуля, велізарныя, мы спачатку спрабавалі самі знайсці магілу, але пасля давялося звярнуцца да мясцовых. – расказвае спадар Сапега. – Ля магілы Бядулі нядаўна ўпала дрэва, яно магло пашкодзіць надмагілле, якое і само па сабе знаходзілася не ў найлепшым стане.

Першы дзень працы быў цалкам аддадзены на дэмантаж надмагілля – некалі велічная па савецкіх мерках пліта цяпер выглядала кепска: не хапала многіх літараў і лічбаў у гадах жыцця. Цяпер надмагілле перавезенае ў Беларусь, і яго перададуць Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры.

– Як высветлілася, труна Бядулі знаходзілася не зусім пад помнікам, дакладней, ужо амаль пад нагамі людзей, якія праходзілі побач, – расказвае спадар Аляксандр. – Урачыстасцяў у працэсе эксгумацыі мала. Але мы паклікалі святара, які правёў службу і прапанаваў павесіць мемарыяльную шыльду на храме могілак, а таксама адзначыць месца былога пахавання.

Няпростай задачай было знайсці цынкавую труну, без якой перавезці рэшткі немагчыма. Увогуле, па словах спадара Сапегі, казахскі бок як мог дапамагаў беларускаму: папяровая праца, якой шмат, ішла хутка. Шмат у чым дапамагала беларуская дыяспара Уральска, што знайшла нават ордэн, якім быў уганараваны Бядуля.



Аляксандр Сапега і Яфім Плаўнік

Перапахаванне пісьменніка адбудзецца ў Мінску. Па словах супрацоўнікаў Музея і Фонду Марыі Магдалены Радзівіл, ужо знойдзенае “годнае месца”, але працэс узгаднення ідзе няхутка, таму падрабязнасці не агучваюцца. Зразумела, што само перапахаванне будзе ўрачыстым і стане падзеяй. Таксама фрагменты надмагілля ўвойдуць у экспазіцыю “Беларускай хаткі”, філіяла музея, што месціцца ў доме, дзе пісьменнік жыў.

– Мы плануем зрабіць невялікую сцежку славы, каб уганараваць памяць тых, хто жыў у “Беларускай хатцы”, – кажа дырэктар Музея гісторыі літаратуры Міхаіл Рыбакоў. – Пачнём акурат са Змітрака Бядулі.

– Я пахаваў бацьку амаль 80 гадоў таму, – кажа Яфім Плаўнік. – Таму тое, што адбываецца цяпер, не магу ўспрымаць як пахаванне. Тады хаваў тату Коласаўскі тэатр, які быў у той час на гастролях ва Уральску. Атрымалася гэткае тэатральнае дзейства. Быў высокі пастамент з прыступкамі, усё пакрытае чырвонай тканінай. Цяпер я вельмі ўдзячны ўсім, хто спрычыніўся да вяртання праху ў Беларусь. Нарэшце гэта атрымалася зрабіць.

**Юрась Ускоў, budzma.by**

**Фота – Юры Камісараў, bellitmuseum.by**

# ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСКАГА АБ’ЯДНАННЯ Ў ШВЕЙЦАРЫІ АЛЯКСАНДР САПЕГА АТРЫМАЎ МЕДАЛЬ АД МЗС

19 лютага Аляксандр Сапега, актыўны прадстаўнік беларускай дыяспары ў Швейцарыі, добра вядомы на радзіме сваёй дабрачыннай і мецэнацкай дзейнасцю (сярод іншага, усталяваннем помніка Касцюшку і вяртаннем ў Беларусь праху Магдалены Радзівіл), атрымаў медаль “100 год дыпламатычнай службы Беларусі”.

Узнагароджанне адбывалася падчас урачыстага адкрыцця Консульства Рэспублікі Беларусь у Ліхтэнштэйне, куды Аляксандр Сапега быў запрошаны як ганаровы госць.

Варта зазначыць, што Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь не ўпершыню заўважае шматлікія заслугі нашага земляка – некалькі гадоў таму Аляксандр Сапега быў адзначаны Ганаровай граматай.

Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” шчыра віншуе спадара Аляксандра Сапегу з заслужанай узнагародай і зычыць новых здзяйсненняў на карысць Радзімы!

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**



# “КРЫВІЧЫ” ВЫДАЛІ КРУЖЭЛКУ: ТАНЦЫ І КАРАГОДЫ БЕЛАРУСАЎ ІРКУЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Навучальны DVD з народнымі побытавымі танцамі і карагодамі беларусаў Іркуцкай вобласці. Гэтыя танцы былі запісаныя падчас этнаграфічных экспедыцыяў па вёсках, заснаваных беларускімі перасяленцамі больш за 100 гадоў таму, за часам Сталыпінскай рэформы 1902–1912гг.

Актыў Іркуцкага Беларускага клуба “Крывічы” на працягу некалькіх гадоў наведаў больш за 50 вёсак практычна па ўсёй Іркуцкай вобласці. На дыску сабраныя танцы і карагоды, запісаныя ў сельскіх старажылаў з Аларскага, Заларынскага, Зімінскага, Куйтунскага, Тулунскага і Ніжняўдзінскага раёнаў.

Спадзяемся, што наш дыск будзе садзейнічаць не толькі захаванню духоўнай нематэрыяльнай спадчыны беларусаў Іркуцкай вобласці, але і адродзіць сярод моладзі цікавасць да традыцыйных аўтэнтычных танцаў і карагодаў. Нашы продкі захавалі традыцыю побытавага танца для нас. Наша задача – пераняць яе і перадаць наступным пакаленням.

Ахвотныя набыць дыск – звяртайцеся:
Тэл.: (3952)40-11-45, 8-902-17-068-30.
E-mail: malanka2000@mail.ru

**Алег Рудакоў**



навіны

# У ГАЙНАЎЦЫ ПРАЙШЛА ТРЭЦЯЯ ПА ЛІКУ АКЦЫЯ “ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ”

У той самы дзень, 23 лютага, у Гайнаўцы адбыўся Марш памяці “выклятых жаўнераў”, які зладзілі крайне правыя сілы. Як галоўных герояў яны ўслаўляюць капітана Рамуальда Райса “Бурага” і маёра Зыгмунта Шэндзеляжа “Лупашку”, адказных за карныя аперацыі ў беларускіх вёсках.



Пяты па ліку Марш памяці “выклятых жаўнераў” сабраў у Гайнаўцы каля 150 удзельнікаў, якія прыехалі з розных рэгіёнаў Польшчы. Ішлі з лозунгамі “Буры – наш герой”, “Вялікая Польшча – хрысціянская”. Арганізатары маршу даводзілі, што “Буры” не дзейнічаў супраць беларусаў ці супраць праваслаўных, таму што ў ягоных аддзелах былі і беларусы, і праваслаўныя. На плакаце былі здымкі Вяруса і Курачкіна, якія сапраўды былі ў аддзеле Бурага. Між іншым, Вярус удзельнічаў у карнай аперацыі ў вёсцы Шпакі.

На шляху маршу традыцыйна сталі сябры арганізацыі “Грамадзяне РП”, якіх паліцыя сілай выцягнула з вуліцы за гадзіну да пачатку шэсця. Прыкладна ў 60-ці чалавек паліцыя перапісала дадзеныя, верагодна, іх чакаюць суды “за тое, што перашкаджалі ў правядзенні дазволенага маршу”. На асфальце засталіся ляжаць растаптаныя ружы, якія трымалі ў руках “Грамадзяне РП”.

“Калі стану прэзідэнтам Польшчы, прыеду сюды і ўшаную ахвяр Рамуальда Райса”, – такое публічнае абяцанне ў Гайнаўцы даў кандыдат на пасаду прэзідэнта ад аб’яднаных левых сілаў, еўрадэпутат Роберт Бедрань.

На думку палітыка, прэзідэнт павінен стаяць на баку пакрыўджаных, а не злачынцаў:

“І, на жаль, напэўна, гэта ўпершыню польскі прэзідэнт зробіць такі жэст, каб ушанаваць ахвяр і паказаць, як ён будуе масты, а не сцены. Прэзідэнт Польшчы сёння мусіць стаяць у гэтым месцы, і ўсе людзі добрай волі сёння мусяць стаць на баку 79 ахвяр, якія загінулі ад рук ката, якім быў Рамуальд Райс “Буры”. Трэба такія ўчынкі асуджаць”.

“Марш нацыяналістаў у Гайнаўцы – гэта вельмі пагрозлівая з’ява, – кажа прафесар Польскай акадэміі навук Анна Эльгэнкінг, якая прыехала з Варшавы, каб запаліць ў Гайнаўцы свечку памяці ахвярам “Бурага”, якога ўдзельнікі маршу чарговы раз вынеслі на штандары. – Калі ў Польшчы не зменіцца макрапалітычная сітуацыя, калі не зменіцца ўлада, то ведаем, як праходзяць гэтыя працэсы, калі словы і жэсты нянавісці становяцца дзеяннем нянавісці. У нейкі момант яны могуць стаць не сімвалічнымі, а фізічнымі. І гэта жахлівая перспектыва. І таму грамадства, царква, касцёл, мясцовыя ўлады мусяць стаць сцяной супраць нарастаючага фашызму”.

***

Паралельна з маршам правых сіл у Гайнаўцы адбылася акцыя “Вечная памяць”, у час якой былі зачытаныя прозвішчы загінулых у выніку так званага “крывавага рэйду Бурага”. Удзел у ёй бралі блізу 500 чалавек.

А 10-й гадзіне ў мясцовай царкве святога Яна Хрысціцеля прайшоў малебен да Святамучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі. Кандыдат на пасаду прэзідэнта ад аб’яднаных левых сілаў, еўрадэпутат Роберт Бедрань прысутнічаў у нядзелю, 23 лютага, на ўшанаванні памяці ахвяр рэйду “Бурага”. На грамадскім мерапрыемстве “Вечная памяць” таксама прысутнічалі дэпутаты польскага Сейму ад левых сілаў – Адрыян Зандберг і Павел Крутуль. Былі і прадстаўнікі Грамадзянскай кааліцыі – Яўген Чыквін і Роберт Тышкевіч.

Грамадская акцыя “Вечная памяць” у Гайнаўцы праходзіла ўжо ў трэці раз. Арганізатары адзначаюць, што “Вечная памяць” не з’яўляецца альтэрнатыўным мерапрыемствам да маршу выклятых жаўнераў. “Гэта наш маральны абавязак паказаць, што ў Гайнаўцы памятаюць і ўшаноўваюць памяць бязвінных ахвяр, а не іх забойцаў”, – адзначаюць арганізатары.

**Паводле Валі Лаеўскай, "Беларускае Радыё Рацыя"**

# НАВЕДВАЛЬНІКІ ХАРКАЎСКАЙ АБЛАСНОЙ ДЗІЦЯЧАЙ БІБЛІЯТЭКІ ПАЗНАЁМІЛІСЯ З БЕЛАРУССЮ

19 лютага ў Харкаўскай абласной дзіцячай бібліятэцы адбылася незвычайная інтэрактыўная віртуальная вандроўка ў Беларусь пад назовам “Маляўнічы край лясоў ды азёр”, прымеркаваная да Міжнароднага дня роднай мовы. Харкаўскія дзеці пазнаёміліся з цікавымі фактамі пра суседнюю краіну, яе звычаі і мову.

Падтрымка і нагадванне жыхарам Харкава пра лёс суседняга народа – важная сацыяльна-культурная місія, міжкультурны і міждзяржаўны мост паразумення, развіццё сяброўскіх адносін паміж краінамі праз знаёмства з культурай ды літаратурай, развіццё ўзаемнай павагі і ведаў украінцаў пра Беларусь.

Імпрэза складалася з некалькіх блокаў: пазнавальнай прэзентацыі пра Беларусь, інтэрактыўнай гульні “Што вы ведаеце пра Беларусь?”, выставы кніг беларускіх пісьменнікаў з фондаў бібліятэкі ды прыватных калекцыяў – класікаў і сучасных.

Старшыня Харкаўскага гарадскога нацыянальна-культурнага аб’яднання беларусаў “Сябры”, сябра Вялікай Рады ЗБС “Бацькаўшчына” Васіль Астаповіч звярнуўся да прысутных з гісторыяй пра сваё дзяцінства ў Беларусі і падараваў бібліятэцы зборнік вершаў двухмоўнай (украінска-беларускай) харкаўскай паэткі і перакладчыцы Майі Львовіч. Такія культурныя ініцыятывы дапамогуць пашырыць веды дзяцей праз знаёмства з іншай культурай ды паспрыяюць развіццю талерантнасці ўкраінскага грамадства.

**Аляксандр Кузьменка, Харкаў**



**кнігі**




# “БЕЛАРУСКІЯ МАСТАКІ Ў ЛАТВІІ. 1920–1990” – НОВАЯ МАНАГРАФІЯ ВЯЧКІ ЦЕЛЕША

29 лютага ў Рызе на Міжнароднай выставе кніг адбылася прэзентацыя кнігі “Беларускія мастакі ў Латвіі. 1920–1990”. Гэтую інфармацыю паведаміў аўтар кнігі – вядомы мастак, кавалер Ордэна Трох Зорак, сябра Рады ЗБС “Бацькаўшчына” Вячка Целеш.

“Гэта не альбом пра мастакоў, а манаграфія, якая апавядае пра жыццё і творчасць прафесійных жывапісцаў: Пётру Мірановіча, Міхася Калініна, Аркадзя Салаўёва, Дзімітрыя Гадыцкага-Цвірку і Аляксандру Бельцаву, забытых ў гісторыі беларускага мастацтва. Шматгадовая даследчая праца ў архівах, музеях і бібліятэках розных краін, успаміны людзей, інфармацыйная і фінансавая дапамога людзей і арганізацый дапамаглі ў выданні гэтай працы. Рэцэнзенты: габіл. доктар мастацтва, прэзідэнт Латвійскай акадэміі навук Оярс Спарытыс і доктар мастацтва Міхаіл Цыбульскі Кніжку выйшла ў выдавецтва “Jumava” на латышскай і беларускай мовах і ўтрымлівае каля 400 рэдкіх фотаздымкаў і каляровых рэпрадукцый карцін. Дзякую ўсім, хто спрычыніўся да яе выдання”, – такі запіс пакінуў у сваім фэйсбуку Вячка Целеш.

ЗБС “Бацькаўшчына” ад усёй душы віншуе спадара Вячку Целеша з выданнем гэтай важнай працы!

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# ПАБАЧЫЎ СВЕТ “КАНАДСКІ ВЫПУСК” ЗАПІСАЎ БІНІМ

Пабачыў свет чарговы (41-ы) выпуск альманаха “Запісы” Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк).

Новы нумар гэтага адзінага перыёдыка, прысвечанага беларускай эміграцыі, атрымаўся надзвычай насычаны і разнастайны. Асноўная тэма – Беларуская Канада – прадстаўленая публікацыямі як пра з’яўленне беларусаў у гэтай краіне ў XIX – пачатку XX стст., гэтак і пра паваенных эмігрантаў ды сучасныя беларускія арганізацыі і ініцыятывы. Сярод аўтараў можна пабачыць саміх канадыйскіх беларусаў: старшыню Рады БНР Івонку Сурвіллу, прафесара Зіну Гімпелевіч, мастачку Ірыну Варабей, пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў Пётру Мурзёнка, Юрася Шамецьку, Віялету Кавалёву, Валянціну Шаўчэнку, якія распавядаюць пра Канадыйскі БІНіМ і Чарнобыльскі фонд, Згуртаванне беларусаў Канады і “Яваровых людзей”.

Тыя, хто цікавіцца гісторыяй беларускай прысутнасці ў Канадзе, знойдуць на старонках гэтых “Запісаў” аповеды пра з’яўленне ў краіне беларускіх евангельскіх хрысьціянаў ды пра стварэнне асяродку ў горадзе Ашава, пра публікацыю ў канадыйскай энцыклапедыі першага артыкула, прысвечанага беларусам, ды пра стварэнне ангамоўнай “Гісторыі беларусаў у Канадзе” Янкі Садоўскага, пра тое, дзе можна знайсці дакументы пра канадыйскіх суродзічаў, ды што ўяўлялі сабою тарантаўскія перыёдыкі “Беларускі Эмігрант” і “Беларускі Голас”. Таксама ў нумары змешчана надзвычай багатае ліставанне пісьменніка Кастуся Акулы, як прысвечанае ягоным творам, гэтак і грамадскаму ды сямейнаму жыццю, перамогам і складанасцям. З іншых канадыйскіх эпісталярыяў – лісты пісьменніка Міколы Сільвановіча, грамадскага дзеяча Алеся Грыцука ды ягонай жонкі Вольгі Грыцук. Усе гэтыя матэрыялы ствараюць своеасаблівую мазаіку вобразаў унікальнай Беларускай Канады.

Па-за асноўнай тэмай, у нумары багата матэрыялаў, якія пэўным чынам таксама звязаны з Канадай, бо паходзяць з архіваў тамтэйшых дзеячаў. Прыкладам, публікуецца вялікая падборка карэспандэнцыі Міколы Абрамчыка са збораў ягонага наступніка Вінцэнта Жук-Грышкевіча, дзе адлюстраваныя розныя моманты палітычнай дзейнасці, хваробы і смерці прэзідэнта БНР. Таксама з атаўскіх архіваў Жук-Грышкевічаў паходзіць ліставанне Наталлі Арсенневай: і актыўныя жыццярадасныя лісты з Нью-Ёрку 1950-х, і заклапочана-сумныя з Рочэстару 1970-х–1980-х. Арыгінальныя, нават крыху авантурныя ідэі наконт арганізацыі грамадскага жыцця паваенных беларусаў утрымліваюцца ў лістах міністра фінансаў БНР Уладзіміра Шыманца да Вінцэнта Жук-Грышкевіча з часоў стварэння Сусветнага аб’яднання беларускай эміграцыі. Змешчаныя ў “Запісах” і прысвечаныя асобе Вінцэнта Гадлеўскага ды складаным пытанням рэлігійнай гісторыі лістоўныя развагі Вацлава Пануцэвіча, а таксама ліст пісьменніка Пётры Сыча з Нямеччыны пачатку 1950-х. Публікуюцца ў нумары дынамічныя і эмацыйныя эпісталярыі будучага святара Пётры Саўчыца з Аргенціны да пісьменніка Міколы Сільвановіча ў Вініпег. Згаданыя матэрыялы падрыхтаваныя да друку архівістам і даследчыкам беларускай эміграцыі Лявонам Юрэвічам.

Сярод іншых, неканадыйскіх, архіваліяў варта адзначыць лісты Яўхіма Кіпеля з часоў крывіцка-зарубежніцкага змагання, эмацыйнае ліставанне беларускіх дзеячаў розных палітычных кірункаў з Юрыем Попкам. У апошнім можна пабачыць унікальныя сведчанні Людвіка Галубовіча (Зарэчнага) пра ягоную працу на сакрэтныя службы ў паваеннай Нямеччыне.

Важныя публікацыі падрыхтаваныя для апошніх “Запісаў” даследчыкам рэлігійнай гісторыі Аляксандрам Слесаравым: ліставанне ўладыкі Васіля (Тамашчыка) са збораў Скарынаўскай бібліятэкі ў Лондане, а таксама біяграфічны нарыс, прысвечаны гэтаму ж дзеячу. Надзвычай цікавыя лісты прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага з Аргенціны да ягонай каханай жанчыны ў Лодзі (праз якія тая жанчына была арыштаваная і асуджаная), падрыхтаваў да друку беларускі даследчык з Варшавы Юры Грыбоўскі. Нечаканыя повязі беларусаў з Чэхіі і Францыі (Людмілы Краскоўскай і Лявона Рыдлеўскага) раскрывае ў сваёй публікацыі даследчык Купалы і Багдановіча Мікола Трус. Пра журналісцкую дзейнасць ураджэнца беларускіх земляў Сямёна Рапапорта распавядае доктар Ірына Чыкалава.




Цікавыя і разнастайныя публікацыі, прысвечаныя эміграцыйным эпіграмам і некралогам, сімволіцы пчалы на гравюрах Скарыны ды традыцыям “Трэнаса” Мялеція Сматрыцкага на эміграцыі, падрыхтаваў для “Запісаў” побач са шматлікім эпісталярыем згаданы вышэй Лявон Юрэвіч.

Прысутнічаюць у новым выпуску альманаха тэксты Макара Краўцова, Станіслава Станкевіча, Пётры Сыча ў раздзеле “Будучыя кнігі”, пасмяротныя згадкі Юрыя Туронка і Юрыя Весялкоўскага ў раздзеле “In memoriam”, угодкавая публікацыя Антона Адамовіча пра Якуба Коласа.

Выхад працы “Беларускі прэм’ер” Сяргея Селяха стаў падставай для трох асобных публікацый, звязаных з жыццём і творчасцю кампазітара Вячаслава Селях-Качанскага, змешчаных у рубрыцы “Вакол кнігі”. Традыцыйна багатая на рэцэнзіі і агляды і сёлетняя “Кніжная паліца” з тэкстамі Ціхана Чарнякевіча, Ганны Севярынец, Алеся Бразгунова, Сержа Трыгубовіча, Юрыя Грыбоўскага. Завяршае выпуск адмысловая “Кніга ў “Запісах”” – публікацыя не ацэненага да сёння прыкладу перакладчыцкай дзейнасці пастара Яна Пятроўскага – “Абароны Сакратаса”.

Можна меркаваць, што ў новым выпуску “Запісаў БІНіМ” аматары гісторыі і сучаснасці беларускай эміграцыі, дый наогул тыя, хто цікавіцца беларускай гісторыяй, знойдуць, што пачытаць і над чым падумаць.

Новыя “Запісы БІНіМ” неўзабаве з’явяцца ў Акадэмкнізе.

**Наталля Гардзіенка**

адукацыя

# МОЖНА НЕ ВУЧЫЦЬ ФІЗІКУ І ПРЫХОДЗІЦЬ НА ЗАНЯТКІ Ў ПІЖАМАХ. БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ Ў ВІЛЬНІ

Гімн гімназістаў – "Гуляць дык гуляць!" Праўда, усё гэта толькі адзін дзень у год – на "стадзёнку". А з сур'ёзных "плюшак" – у апошніх класах можна не вучыць фізіку і хімію з біялогіяй. І гэта чыстая праўда.

Свабода пабывала ў адзінай беларускай гімназіі за межамі Беларусі – Віленскай гімназіі імя Францішка Скарыны. І трапіла адразу на "стадзёнку" – свята, якое адзначаецца ў школах Літвы і Польшчы і якога няма ў Беларусі.

## "Стадзёнка" – развітанне з дзяцінствам

"Стадзёнка" – 100 дзён да выпускных экзаменаў у апошнім класе, развітанне з дзяцінствам, своеасаблівы званочак для 12-класнікаў, што настаў час сур'ёзна рыхтавацца да экзаменаў.

Днём раней гімназія гула. Урокі яшчэ ішлі, але ў паветры ўжо лунала свята. Прычым не адно, а "тры ў адным" – "Стадзёнка" супала з днём святога Валянціна і Днём аднаўлення дзяржаўнасці Літвы.

У адным класе рэпетавалі, спявалі "Сёння ў нашай хаце свята", развучвалі новыя прыпеўкі. У другім надзімалі featured рознакаляровыя шарыкі, развешвалі сэрцайкі, у трэцім – развучвалі танцы. У чацвёртым выраблялі арыгінальныя "ядомыя" падарункі выпускнікам – канцылярскія "лічыльнікі" і калькулятары з цукерак, печыва ды іншых ласункаў.

І толькі ў самых малых – у падрыхтоўчай групе, дзе займаюцца дзеці ад 4 да 6 гадоў, праводзіўся сур'ёзны ўрок, прысвечаны Дню аднаўлення дзяржаўнасці Літвы.

А наступнае раніцы прайшла ўрачыстая лінейка. 12-класнікам дазвалялася ўсё – "адвязны" знешні выгляд, кепкі з прапелерам, шапачкі зайчыкаў з вушкамі, забаўныя банты, можна было нават смактаць чупа-чупс. Усе іншыя вучні выглядаюць кантрасна – у парадных дзелавых строях. Кожны клас падрыхтавала сваё віншаванне і самаробныя падарункі.

А пасля другога ўроку ў сталоўцы першакласнікі з сур'ёзным выглядам упіхвалі ў выпускнікоў манку, размазваючы па тварах юнакоў кашу і сочыва. Шматлікія гледачы спачувалі і рагаталі.

У той дзень гімназія святкавала да позняга вечара: канцэрты, конкурсы, дзве дыскатэкі.

## Міністэрства адукацыі Літвы надало звычайнай школе гімназічны статус

Святы святамі, а беларуская гімназія імя Францішка Скарыны – сур'ёзная навучальная ўстанова, якая прайшла акрэдытацыю ў Міністэрстве адукацыі, асветы і спорту Літоўскай Рэспублікі, атрымала гімназічны статус, з гонарам кажа дырэктарка Дзіяна Стахновіч.

"У 1991 годзе ў Вільні пачалі адкрывацца першыя беларускія класы пры рускіх школах. А ў 1994 годзе пад беларускую школу Віленская мэрыя выдзеліла асобны будынак – былы дзіцячы садок. Тут пачала працаваць 68-я сярэдняя школа з беларускай мовай навучання.

У 1997 годзе ёй надалі імя Францішка Скарыны, а ў 2013 годзе мы сталі гімназіяй. Мы лічым сябе спадкаемцамі той самай Віленскай беларускай гімназіі, якая існавала ў Вільні з 1914 па 1944 гады. І шмат у чым працягваем яе традыцыі", – расказвае спадарыня Дзіяна. І з гонарам паказвае шматлікія ўзнагароды – дыпломы, падзякі, медалі, вымпелы.


Дзіяна Стахновіч.

## "На ўроках мы абыходзімся без рускай мовы"

Больш за ўсё ў Вільні, натуральна, літоўскіх школ, на другім месцы па колькасці польскія. Рускіх школ не так шмат – каля 10. Ёсць прыватныя габрэйская, амерыканская. "І адзіная беларуская гімназія за межамі Рэспублікі Беларусь – гімназія імя Францішка Скарыны", – тлумачыць дырэктарка гімназіі Дзіяна Стахновіч.

"Калі дзеці прыходзяць у першы клас, беларускай мовай яны не валодаюць зусім, размаўляюць па-руску. Афіцыйна на ўроках мы абыходзімся без рускай мовы. Але я не магу сказаць, што ў зносінах яе няма. Часцяком менавіта руская і застаецца мовай зносінаў паміж дзецьмі.

Але мы не ставім за мэту пазбавіцца рускай мовы", – кажа дырэктарка.

Беларуская мова лічыцца ў гімназіі роднай. Літоўская мова – дзяржаўная, яна таксама вывучаецца як родная. Выкладаюцца дзве замежныя мовы – ангельская і руская (2 гадзіны на тыдзень).

## У класе максімум 18 дзяцей

Усяго ў гімназіі 214 вучняў, яшчэ 19 малых дзяцей вучацца ў падрыхтоўчай групе. Бальшыня ідзе ў беларускую гімназію мэтанакіравана, незалежна ад нацыянальнасці, кажа дырэктарка.

"Дзеці прыходзяць розныя, і з беларускіх сем'яў, і дзеці эмігрантаў, ёсць дзеці беларускіх дыпламатаў. Прыходзяць да нас у гімназічныя класы (з 9-га па 12-ы) дзеці з рускіх школ. У пазамінулым годзе такіх прыйшло 5 чалавек. Па-беларуску яны загавораць у лепшым выпадку ў 11-м класе".

Аднак ёсць і выключэнні: 12-класніца Інгрыда, якая прыйшла ў гімназію паўтара года таму, будзе вядучай на свяце "Стадзёнкі" – яна ўжо добра валодае беларускай.

12-класнік Эміль прыйшоў у беларускую гімназію ў 11-ы клас з рускай школы. Спыталі ў яго маці, чаму зрабілі такі выбар. Яна кажа, што тут вельмі ўтульна, невялікія класы, усе ведаюць адзін аднаго.

"А самае галоўнае – душэўная атмасфера, у гімназіі добрая рэпутацыя – настаўнікі даюць грунтоўныя веды", – аргументуе Эмілева маці.

На ўроку беларускай літаратуры ў 2-м класе мы пачулі цудоўнае, мілагучнае беларускае маўленне: васьмігадовы Яраслаў Віцюкоў чытаў верш Янкі Купалы "Хлопчык і лётчык". Аказалася, ягоная маці скончыла ў Вільні аддзяленне беларусістыкі.



### Падручнікі літоўскія, але настаўнікі тлумачаць, а дзеці адказваюць па-беларуску

Навучальны працэс у Віленскай гімназіі істотна адрозніваецца ад беларускага. Беларуская гімназія ў Вільні – дзяржаўная, падпарадкоўваецца яна Міністэрству адукацыі, асветы і спорту Літоўскай Рэспублікі.

“У нас тыя ж самыя праграмы, тыя ж самыя падручнікі, па якіх вучацца ў літоўскіх школах. І матэматыку, і фізіку, біялогію і ўсё астатняе мы вучым па літоўскіх падручніках, зацверджаных Міністэрствам адукацыі Літвы, але па-беларуску. Тобок настаўнікі тлумачаць новы матэрыял па-беларуску, дзеці адказваюць на ўроках таксама па-беларуску.

Літоўская мова і літаратура вывучаецца ў беларускай гімназіі ў тым жа аб’ёме і па тых жа падручніках, што і ў літоўскіх школах і гімназіях. Беларуская мова і літаратура выкладаюцца па падручніках, якія выдадзены ў Беларусі, – іх бясплатна дае Мінадукацыі”, – тлумачыць дырэктарка.

Сёлета ў гімназіі супольны праект з беларусамі па праграме Erasmus – “Стварэнне этнакультурнага асяроддзя ў Віленскай гімназіі і ў школе № 4 Ліды”. У абедзвюх навучальных установах будуць пабудаваныя аднолькавыя новыя карпусы са спартовай залай, бібліятэкай і сучаснымі кабінетамі. Ужо летам пад вокнамі Віленскай гімназіі пачнецца будоўля.

У 2014 годзе пры гімназіі адкрылі падрыхтоўчую групу для дзетак 4–6 гадоў, якія тут займаюцца, днём спяць, потым гуляюць – як у дзіцячым садку.

“Горад не даваў рады – не хапала месцаў у садках. Кінулі кліч: “Забярыце, хто можа“, – мы адгукнуліся. Гэта гарантыя таго, што ў гімназіі будзе 1 клас”, – расказвае дырэктарка.

Можна сысці з гімназіі пасля 8 класа і атрымліваць рабочую спецыяльнасць у ПТВ.

Аднак базавая адукацыя ў Літве – 10 класаў. Пасля заканчэння – праверка ведаў, тры экзамены: матэматыка, літоўская мова і родная мова – беларуская.

“Экзамены мы здаём па-літоўску, акрамя беларускай мовы і ангельскай”, – тлумачыць дырэктарка Дзіяна Стахновіч.

### Настаўнікі – і беларусы, і літоўцы

Усяго ў беларускай гімназіі 36 педагогаў. Акрамя прадметнікаў, у школе працуюць псіхолаг, лагапед, сацыяльны педагог.

У пачатковых класах ёсць асноўная настаўніца, спецыялісты выкладаюць ангельскую і літоўскую мову, а таксама танцы.

Звяртаюцца вучні да настаўнікаў без звыклага ў Беларусі імя па бацьку: альбо “спадарыня”, альбо “настаўніца”. Для дзяцей, якія прыйшлі з рускіх школ, гэта таксама нязвыкла, яны доўга прывыкаюць.

Дарэчы, “дзелавы стыль” не абавязковы, хаця форма ў гімназістаў ёсць – для святаў і ўрачыстасцяў. А на заняткі можна хадзіць у зручнай вопратцы.





“Бальшыня настаўнікаў працуюць тут на пастаяннай аснове. Праблем з кадрамі няма. Наколькі яны ўсе валодаюць беларускай мовай – пытанне, але настаўнікі беларускай мовы, пачатковых класаў – натуральна, усе валодаюць”, – кажа дырэктарка.

Некаторыя настаўнікі родам з Беларусі, атрымалі адукацыю ў беларускіх ВНУ.

Сама дырэктарка Дзіяна Стахновіч жыве ў Літве з 1991 года. Скончыла Гарадзенскі педагагічны ўніверсітэт, выйшла замуж за віленскага беларуса.

Настаўніца хіміі і біялогіі, класная кіраўніца выпускнога 12-га класа Святлана Грышко родам з Ліды, скончыла Берасцейскі педагагічны, таксама выйшла замуж за віленчука.

Прыходзяць працаваць у гімназію і былыя яе выпускнікі. Аляксандра Субкене – выпускніца 2005 года, скончыла Віленскі ўніверсітэт і магістратуру з чырвоным дыпломам.

Танцы выкладае чэмпіён свету па бальных танцах Артур Баёр – выпускнік гімназіі 2002 года.

Цікава, што музыку, спевы, мастацтва тут выкладаюць усе 12 гадоў. Танцуюць, спяваюць і граюць на розных музычных інструментах літаральна ўсе. Дзеці надзвычай разняволеныя, не баяцца выступаць публічна, не саромеюцца.

“Мужчын-выкладчыкаў у гімназіі мала, яны выкладаюць ангельскую мову, інфарматыку і танцы. Некалі выкладаў гісторыю вядомы беларускі актывіст Сяржук Вітушка”, – згадвае дырэктарка гімназіі.

### У 12-м класе вучацца па індывідуальным плане

У 10 класе дзяцей знаёмяць з праграмай на 11 і 12 класы. Гімназісты павінны вызначыцца з прафесіяй і выбраць, якія прадметы яны будуць вывучаць паглыблена. Ёсць 9 асноўных прадметаў, якія вывучаюць усе. Матэматыка і ўсе чатыры мовы – абавязковыя.

А, да прыкладу, хімію, фізіку, біялогію два апошнія гады гімназісты могуць не вывучаць. Можна выбраць адну з гэтых навук ці інтэграваны курс. Паглыбленыя веды атрымліваюць толькі тыя, каму гэта трэба для паступлення ў ВНУ.

Калі гімназіст перадумаў і вырашыў паступаць на іншую спецыяльнасць, можна перайсці на паглыбленае вывучэнне пэўных прадметаў. Але тое, што астатнія дзеці ўжо прайшлі, трэба вывучыць і даздаць.

У 12-м класе гімназісты займаюцца па індывідуальным плане.

Каб атрымаць атэстат, у гімназіі трэба здаць літоўскую мову і яшчэ адзін прадмет (можа быць нават такі, як спевы, фізкультура ці праца).

Пасля 12-га класа гімназісты здаюць дзяржаўныя экзамены, але не ў самой гімназіі, а цэнтралізавана – як у Беларусі ЦТ. Каб паступіць на бюджэт, трэба здаць літоўскую мову, матэматыку і замежную мову. А ўсяго можна здаваць да 7 прадметаў.

На пытанне, як здаюць дзеці з беларускай гімназіі дзяржаўныя экзамены, як яны выглядаюць на фоне выпускнікоў літоўскіх школ, Дзіяна Стахновіч адказала так:

“Здаюць па-рознаму. Як вучацца, так і здаюць. Калі дзіця стараецца, займаецца – і здасць нармальна. Ёсць і такія, хто не вызначыўся з выбарам прафесіі і спачатку ідзе працаваць”, – кажа дырэктарка.

Паступаюць таксама па-рознаму: і за мяжу, і ў Літву, і ў Беларусь. Летась два выпускнікі паступілі вучыцца ў Брытанію, адзін – у Беларусь. Сёлета двое таксама збіраюцца паступаць за мяжу.

### У беларускія ВНУ выпускнікі паступаюць як грамадзяне замежнай краіны

Летась адна дзяўчына паступіла ў Гарадзенскі медыцынскі ўніверсітэт, сёлета ў медыцынскія беларускія ВНУ збіраюцца паступаць яшчэ дзве дзяўчыны.

“А вось у ЕГУ аніхто з беларускай гімназіі ніколі не паступаў – усе валодаюць літоўскай мовай і аддаюць перавагу літоўскім ВНУ ці едуць за мяжу”, – дадае спадарыня Дзіяна.

“Але нашы дзеці не літоўцы. Нават тыя, хто паступае ў Беларусь і прыязджае назад, цяжкавата потым вяртаюцца да літоўскай мовы”, – прызнаецца дырэктарка.

Запыталіся ў сёлетніх 12-класнікаў, куды яны плануюць паступаць. Эміль – на праграмаванне ў Вільню (прычым плануе падаваць дакументы адразу ў тры ВНУ), Кірыл збіраецца вывучаць хімію ў Даніі, Інгрыда і Караліна паедуць паступаць у беларускія медуніверсітэты (на стаматалогію і лячэбную справу).

**Іна Студзінская, Уладзь Грыдзін, svaboda.org**

**кніга**

# БЕЛАРУСЫ Ў СІБІРЫ

Прэзентацыя двухтомніка "Беларусы ў Сібіры" прайшла 5 лютага ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Мерапрыемства з удзелам расійскіх гасцей прымеркавана да XXVII Мінскай міжнароднай кніжнай выставы.



Расійскае выданне, якое грунтоўна распавядае пра беларусаў у Сібіры і змяшчае самыя разнастайныя матэрыялы – ад "радаслоўя" і расповедаў пра лёсы і характары да лістоў, дзённікаў і вандроўных нататак, а таксама вершы нашых ссыльных паэтаў Сяргея Дарожнага, Ядзвігі Бяганскай, Андрэя Александровіча, Алеся Гаруна ў перакладзе на рускую мову, выкананым Інай Фраловай, і жывапіс нашых мастакоў, і шмат іншага, – прэзентавалі з удзелам прадстаўнічай афіцыйнай публікі і пры самых што ні ёсць юных сведках – вучнях Мінскай гарадской сярэдняй школы N 152.

Адкрываючы прэзентацыю, Эліна Свірыдовіч зрабіла адступленне, звярнуўшы ўвагу на зал, у якім сабраліся госці: тут цяпер экспануецца Біблія Васіля Кораня 1692–1696 гадоў. Біблія гэтая таксама была прывезена да нас сябрамі з Расіі. "Беларусь і Сібір аддзяляюць прасторы, і тым не менш, ужо некалькі стагоддзяў беларусы ўплываюць на розныя галіны жыцця далёкай ад нас зямлі. Шмат нашых суайчыннікаў, пачынаючы з XVI стагоддзя, звязалі жыцці з гэтым асаблівым рэгіёнам. Рознымі шляхамі яны апыналіся ў Сібіры, але ўсе ўносілі нешта сваё ў развіццё тамтэйшай культуры, інжынерыі, прамысловасці", – сказала Эліна Свірыдовіч.

З вітальнымі словамі да прысутных звярнуўся дырэктар музея Міхаіл Рыбакоў. Адзначыўшы факт цікавасці да тэмы, ён падзякаваў гасцям за выданне і магчымасць мець яго на беларускай зямлі. "Як навуковец і чалавек, які доўга займаўся справамі беларусаў за мяжой, магу сказаць, што стварэнне такіх выданняў – гэта вельмі цяжкая праца. Прычым не толькі на стадыі выпуску кнігі, але і на стадыі даследаванняў, – сказаў Міхаіл Рыбакоў. – Кніга ўтрымлівае шмат дакументаў і фотаздымкаў, летапіснага матэрыялу, іншай інфармацыі, якую хутка не збярэш і за кароткі час не перапрацуеш. Спадзяюся, што гэты двухтомнік шмат дасць культуры і гісторыі Беларусі. Мы, такім чынам, адкрываем новую старонку, якой будзем пасля ганарыцца, як ганарымся іншым, што маем даўно".

Фундатарам выдання з'яўляецца дырэктар Цюменскага дабрачыннага фонду "Адраджэнне Табольска" Аркадзій Ялфімаў. Гэтая грамадская арганізацыя мае мэтай асветніцтва – расповеды пра цудоўную гістарычную і культурную спадчыну, якой сібіракі ганарацца. Кніг, выпушчаных арганізацыяй, можна ўжо налічыць больш за сорак. "Традыцыі выпускаць іх паклаў пачатак шмат гадоў таму Валянцін Распуцін, якога называюць духоўным губернатарам Сібіры. Ён дабраславіў наш выдавецкі праект і напісаў да яго прадмову, дзве афарыстычна паведаміў, што Сібір уся на сёння зведаная ў сваіх нетрах, але ніяк не вывучана ў сваім культурным і гістарычным мінулым. Тое, чым нам трэба ганарыцца, нам, маўляў, невядомае. Задача гэтых кніг – распавесці пра тое, чым трэба нам ганарыцца", – сказаў госць.

Пра тое, як ствараюцца кнігі праекта, прысутныя пачулі асобны кранальны аповед. Як і пра факт дарэння нейкі час таму ўнікальнага выдання – евангелля Дастаеўскага – нашай сядзібе Дастоева. Дарагія выданні, якія ствараюцца агульнай колькасцю не больш як сто экзэмпляраў, не прадаюцца, а толькі дорацца. "Кнігі выдаюцца на сродкі Папячыцельскага Савета, сродкі ахвяруюць прадпрымальнікі, вядомыя ў Расіі дабрачынцы". Афармленне кніг заслугоўвае асаблівай увагі. Папера на іх бярэцца самая дарагая, якая толькі ёсць у паліграфіі. Вокладкамі часта не абмяжоўваецца – ствараецца спецыяльная ўпакоўка. "Гэта шэдэўры кніжнага мастацтва, якія афармляюцца выключна мастакамі", – падкрэсліў Аркадзій Ялфімаў. "А калі вокладка кнігі падалася вам цёмнай, – дадаў ён, – то гэта невыпадкова, гэта прадуманы ход. Мы прызвычаіліся да яркіх колераў як прыкметы папсовасці. Але Сібір – не свята, і беларусы ішлі туды на цяжкія выпрабаванні". У прэзентацыі ўзяў удзел старшыня Рады Беларускага фонду культуры Тадэвуш Стружэцкі. Перайначыўшы фразу пра час і камяні, ён сказаў так: "Для нас настаў час збіраць беларусаў, рассеяных па ўсім свеце".



Юрый Пермінаў, галоўны рэдактар выдання, расказаў сярод іншага і пра цяжкасці выбару назвы: "Мы думалі, як назваць: "Беларусы ў Сібіры" ці "Беларусы і Сібір"? І спыніліся на першым, таму што саюз "і" мае не толькі аб'ядноўчае, але і раздзяляльнае адценне". Госць адзначыў, як часта пры падрыхтоўцы розных выданняў даводзілася звяртаць увагу на тое, як гучыць беларуская тэма: "Яна гучыць так ці інакш ці не ў кожнай кнізе, якую мы рыхтуем, пра што б яна ні была, пра які сібірскі горад ні распавядала".

Пісьменніца Іна Фралова расказала, як прыемна было ёй адчуць сябе аўтарам гэтага двухтомніка, зрабіўшы пераклады беларускіх паэтаў на рускую мову. "Я адчула сябе сярод сяброў", – сказала яна, распавядаючы пра маскоўскую прэзентацыю выдання.

Клопат аб знаходжанні гасцей з Сібіры ў Мінску і Беларусі ўзяў на сябе Саюз пісьменнікаў Беларусі. Іх чакаюць да дзясятка сустрэч у межах выставы і вандроўкі па нашых гарадах. А выданне "Беларусы ў Сібіры" ў падарункавых упакоўках атрымаў не толькі Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, але і сістэмы дарослых і дзіцячых публічных бібліятэк Мінска.

**Святлана Воцінава, "Маладосць"**

## Беларускі каляндар памятных дат на сакавік 2020 года

**3 сакавіка**
- 80 гадоў таму, у 1940-м, нарадзіўся Уладзімір Ладысеў, гісторык. Памёр у 2017-м.

**4 сакавіка**
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Язэп Германовіч, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Вялікабрытаніі. Памёр 26 снежня 1976-га.
- 15 гадоў таму, у 2005-м, памёр Карлас Шэрман, пісьменнік.

**5 сакавіка**
- 125 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Аляксандр Каваленя, археолаг. Расстраляны 27 жніўня 1937-га.
- 80 гадоў таму, у 1940-м, памёр Аляксандр Сержпутоўскі, этнограф.
- 20 гадоў таму, у 2000-м, загінуў Мікола Ермаловіч, гісторык.

**8 сакавіка**
- 110 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Пётр Конюх, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Бельгіі, ЗША і Канадзе. Памёр 14 ліпеня 1994-га.

**10 сакавіка**
- 100 гадоў таму, у 1920-м, нарадзіўся Аркадзь Марціновіч, пісьменнік. Памёр у 2009-м.

**13 сакавіка**
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Аляксандр Савіч, гісторык. Памёр 21 кастрычніка 1957-га.

**14 сакавіка**
- 15 гадоў таму, у 1995-м, памёр Уладзімір Сядура (Глыбінны), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**15 сакавіка**
- 110 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Хведар Ільяшэвіч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне. Загінуў 7 лістапада 1948-га.

**19 сакавіка**
- 125 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Тамаш Грыб, палітык. Памёр 25 студзеня 1938-га.
- 30 гадоў таму, у 1990-м, памёр Аляксандр Смаль, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

**21 сакавіка**
- 180 гадоў таму, у 1840-м, нарадзіўся Францішак Багушэвіч, пісьменнік, удзельнік паўстання 1863–1864 гг. Памёр 28 красавіка 1900-га.

**23 сакавіка**
- 155 гадоў таму, у 1865-м, нарадзіўся Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі, паэт. Памёр 30 верасня 1939-га.
- 125 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Васіль Сташэўскі, пісьменнік. Расстраляны 29 кастрычніка 1937-га.

**25 сакавіка**
- Дзень Волі
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Браніслаў Ржэўскі, літаратуразнавец. Памёр 10 лютага 1980-га.
- 70 гадоў таму, у 1950-м, у Сіднеі адбыўся I з'езд сяброў Беларускага Аб'яднання ў Аўстраліі.

**26 сакавіка**
- 80 гадоў таму, у 1940-м, нарадзіўся Міхаіл Касцюк, гісторык. Памёр у 2019-м.

**28 сакавіка**
- 25 гадоў таму, у 1995-м, памёр Часлаў Найдзюк, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**29 сакавіка**
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Майсей Грынблат, гісторык. Памёр у 1983-м.

**30 сакавіка**
- 80 гадоў таму, у 1940-м, нарадзіўся Аляксей Марачкін, жывапісец.

**Беларусы ў свеце**
№ 2 (213), люты 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 370-10-12